# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 44 (1183) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 29 КАСТРЫЧНІКА 1978 г. ЦАНА 60 гр.



**Па роднай зямлі.** *Раніца ў нядзелю ў Кнарыдах.* *Фота М. Шаховіча.*

СУСТРЭЧЫ

## Юнак з Глыбоччыны

Сярод вірыстых вадаваротаў і трагічных пераломаў, якіх **Тамашу Кірылаву** не паскупіла жыццё, і без спецыяльнага даследавання не цяжка заўважыць сталасць гэтага чалавека ў служэнні сфармаваўшымся ў яго яшчэ ў юнацтве высакародным ідэалам.

Мо гэтаму спрыяў яго жыццёвы шлях? Бо так ужо склалася, што Тамаш прыйшоў на свет першынцам у маладой сям'і шляхцянкі-каталічкі і селяніна-старавера ў глыбі беларускіх зямель, у вёсцы Сорыкі на Глыбоччыне. Такому незвычайнаму мезальянсу ў былой Заходняй Беларусі ніхто не благаславіў: ні разрослы род ганарлівай засцянковай шляхты, ні наглуха замкнутая ў сабе абшчына стараавераў. Адзінай падпорай для маладых было іх узаемнае шчырае каханне. Нават калі паявілася ў іх у 1925 годзе гэтае першае дзіця, за яго рэлігійную прыналежнасць разгарнулася цэлае змаганне: родзічы бацькі спачатку ахрысцілі яго ў маленнай па стараверчаскаму абраду, а затым сям'я маткі, залучыўшы зручны момант, завезла яго да паўторнага хрышчэння ў касцёл. І не дзіва, што ў пошуках спакою ад усяго гэтага ды самастойнага кавалка хлеба бацька Тамаша падаўся на працу ў капальню вугалю ў паўночную Францыю і неўзабаве забраў туды жонку з сынам. І давялося хлопчыку расці ў тым шматнацыянальным рабочым асяроддзі, дзе хоць сапраўдная французская мова была чуваць на вуліцы, у розных установах і ў дзяржаўнай школе, але з суседзямі і ў эміграцкай „чацвярговай“ школцы гаварылася па-польску, у хаце ж паміж сабою — па-беларуску.

Дзесяцігадовым хлапчуком Тамаш разам з засумаваўшымі да родных мясцін бацькамі вярнуўся ў Сорыкі. Пасля заканчэння пачатковай школы марыў ён аб навуцы ў гімназіі, але ў бацькі, занятага будаваннем свайго „футара“ на 6-гектаровай „бацькаўшчыне“ і 3-х гектарах „пасажнага“ па жонцы, не было як канца з канцамі звесці, і хлопцу давялося заняцца пасвіннем дабытку. Яго мары пачалі збывацца толькі з прыходам у Заходнюю Беларусь савецкай улады.

У сярэдняй школе ў Глыбокім ён з галавой акунуўся ў вучобу і грамадскую дзейнасць: дапамагаў іншым у вучобе, рэдагаваў школьную насценную газетку, спяваў у хоры, рыхтаваўся да ўступлення ў камсамол. Тады ён упершыню пачаў вучыцца беларускай мове, палюбіў яе, зачытваўся Я. Купалам, Я. Коласам, вершамі свайго земляка М. Танка. Таксама і сам спрабаваў пісаць. Свой першы змешчаны ў насценнай газеце верш „Прыйшла вясна“ Т. Кірылаў яшчэ і сёння дасканала памятае, і з задавальненнем кладзе акцэнт на такія вось радкі:

(Працяг на стар. 4)

Новыя вершы

## РОДНАЕ

*Што больш звычайнае, як гэтая сасна,*
*убраная так строга-невыдумна?*
*Як гэтая рачулка, што плыве*
*паціху, нетаропка, ледзь прыкметна.*
*Альбо ручай, які бяжыць, імчыць,*
*гарэзны, па-наіўнаму празрысты,*
*Ці гэтыя гасцінныя палі, яны заўжды адчынены —*
*заходзьце!*

*Але,*
*Дзе б я ні быў, перада мной*
*У памяці, як фрэскі, выступаюць:*
*Палі, сасняк, рака, ручай, палі.*

**Павел Марціновіч**



**Беларускі музычальны агляд — 78.** Іграе Стэфан Тыкаловіч з Мілейчыц. Фота М. Гайдука.

**„ПРА ТЫХ, ШТО ВЫБРАЛІ СМЕРЦЬ“ — СЛЕДАМ РЭПАРЦЁРСКІХ ЗАПІСАК.**

## ЖЫВЫ СВЕДКА

Чалавек спыніў коней, запрэжаных у плуг, паглядзеў на мяне неяк дапытліва і тады адазваўся:

— Ага, значыць, вы хочаце ведаць пра гэтую точку, якая знаходзіцца на ўзгорку пад лесам за вёскай Машчона Каралеўская, калі ехаць шашой ад Радзівілаўкі ў Сямяцічы і Драгічын? О, я ведаю гэты дот! Там у вайну загінула 15 лейтэнантаў, 1 капітан і 1 сяржант. У пачатку акупацыі немцы прымусілі яўрэяў, каб яны замуравалі ўваход у гэты дот і так яны, значыць, гэтыя салдаты, аставаліся там аж да вызвалення, да жніўня 1944 года.

* ✲ *

Ён павесіў коням торбы з аўсяным кормам, а мы выгодна расселіся на ўзгорку пад лесам.

Пра гэтага чалавека ўспаміналі мне ўжо іншыя людзі. Язэп Капелька з Машчоны Каралеўскай назваў нават яго прозвішча: **Кузавінскі** з Мельніка над Бугам. Толькі імя яго я не ведаў, а ў Мельніку не адзін Кузавінскі... Дапамагла адна работніца гміннага ўпраўлення.

— Дзядзька мой Кузавінскі, — заявіла яна, пачуўшы, што я шукаю чалавека з такім прозвішчам. — Чула, як ён расказваў пра гэтыя бункеры ў Машчоне Каралеўскай... Жыве па-суседску са мной. Калі ласка, завяду...

Іван Кузавінскі, па бацьку Антонавіч, ад роду жыхар Мельніка, сапраўды аказаўся тым чалавекам, якога я шукаў, каб адкрыць тайну геройскай, але і пакутніцкай смерці гэтых воінаў, якія вышэй цанілі вернасць Радзіме ад уласнага жыцця.

* ✲ *

— Так, усіх іх бачыў я ўласнымі вачыма. Як толькі ўспомню, то і цяпер бачу іх быццам жывых. Стаяць вось маладыя, адзін у аднаго, па 21-22 гады... Гэта я ўласнаручна адчыніў ім той дот, у якім яны і загінулі...

* ✲ *

Ян Кузавінскі размяняў ужо сёмы дзесятак свайго жыцця. Давялося бачыць яму не адно чалавечае гора. Але цяпер, калі ўспомніў баявых таварышоў, голас яму задрыжаў, ён адвёў у бок пастарэлы, маршчынамі парэзаны твар... Я падаў яму папяросу, але ён адмовіўся, бо не курыць, і, супакоіўшыся, пачаў доўгі расказ пра свой ваенны лёс.

* ✲ *

— Першы раз, — гаварыў ён, — сутыкнуўся я з вайной яшчэ будучы падлёткам. У верасні 1939 года ўжо я сам ваяваў. Служыў на рачных суднах. Паўторна прызвалі мяне на ваенную службу 20 сакавіка 1941 года. На гэты раз у Чырвоную Армію, дзе запісалі мяне ў гідрасапёры. Можа таму, што вырас я над Бугам. Найперш трапіў я на хутар **Зводы** каля станцыі **Лышчыцы,** дзе знаходзіўся штаб дывізіі або арміі, дакладна не ведаю. Пасля ўступнага абучэння накіравалі нас у ваенны гарадок, які размяшчаўся ў лесе за вёскай Машчона Каралеўская. Там найперш трапіў я на кухню, а затым — у вартаўнічы ўзвод. Разам са мною быў яшчэ Вінцук Юркевіч з вёскі Мацькевічы, што па дарозе з Мельніка ў Сямяцічы праз Аслова, быў Галабурда з-пад Гайнаўкі, быў яшчэ адзін чалавек з Сямяціч, але ён ужо памёр. Былі і іншыя нашы землякі, аднак прозвішчы іх я ўжо забыў. Столькі ж часу прайшло...

* ✲ *

Якраз тады выпала мне чарга на варту. Дзесяць чалавек адпачывала, а другая дзесятка сцерагла гэтыя бункеры і іншыя склады з рознымі матэрыяламі і ўзбраеннем, якія знаходзіліся ў зоне нашага ваенгарадка.

Тады, у гэтую ноч, мая вартаўнічая служба распачыналася ў час ночы. Дык вечарам разам з іншымі сябрамі пайшлі мы на фільм.

Пасля фільма... Ён быў пра фінляндскую вайну. Паказвалі, як чырвонаармейцы бралі лінію нейкага Манерхейма ці Манергейма. Дык пасля гэтага фільма пайшоў я на варту. Камандзір па варце, лейтэнант, паставіў мяне пільнаваць вось гэтую точку.

* ✲ *

Спачатку ўсё было ціха і спакойна, як заўсёды. Толькі безупынку гру-

(Працяг на стар. 4)

 




## Знявечыў сына

Антось не любіць, калі хтось прыглядаецца да яго твару. І хаця той чалавек мо і на думцы не меў нічога дрэннага, Антось становіцца тады маркотны, малагаваркі. А так наогул Антось чалавек вясёлы і размоўны, любіць ён жыццё. І песні любіць. А калі пачуе песню „Ручнікі“, дзе спяваецца

„І ў дарогу далёку ты мяне на зары праважала,
І ручнік вышываны на шчасце, на долю дала“,

нейкі камень становіцца ў горле і вылазяць няпрошаныя, сарамлівыя слёзы.

Чаму яго, 18-гадовага юнака, так хвалюе гэтая песня? А мо ён сірата?...

Успамінаецца яму той страшны вечар, калі пабітая бацькам маці апоўначы праводзіла яго на вакзал і гаварыла: „Ідзі, сынок, з хаты, бо як працверазее бацька, ды зноў загляне ў кілішак, то можа цябе яшчэ больш скрыўдзіць. Едзь, сынок, да дзядзькі Мішы, пабудзь там некалькі дзён, а пасля прыеду я і тады разам памяркуем, што рабіць“. Маці зняла з ног свае цёплыя шкарпэткі і цяплушку з плячэй, каб Антось не замерз у дарозе. Развітваючыся з сынам, маці заплакала і далікатна папракнула яго: „Навошта ты на яго кінуўся?“ „Мамачка, панесла мяне крыўда, і мая, і твая, і Анаты!“

Вярталася маці дахаты неспакойная. Думала і аб сыне, і аб дачцы Анаце, якая засталася ў хаце, і аб п'яным мужу Кандраце, які цягаў дачку за валасы і біў па твары за тое, што яна абараняла маці. Успомніла яна і лепшыя гады. Ужо тады Кандрат любіў выпіць, але ніколі не скандаліў, добра зарабляў. Усё змянілася, калі ён перайшоў на другую работу і трапіў у кампанію п'яніц.

Часта ў думках жонка папракала сябе за тое, што не змагла яго вырваць з гэтай кампаніі. Але дараваць усё ж не магла. І, убачыўшы ізноў вяртаючагася на няпэўных нагах мужа, яна крычала:

— Ты зноў налізаўся, як жаба мулу! Цягаешся, як плюгавы сабака, забыўшыся, што ў цябе ёсць жонка і дзеці.

Тады Кандрат пачынаў яе біць. Дзеці Антось і Аната баранілі маці як умелі, крычучы на бацьку: „Дурань, шалёны, п'яніца, гестапавец“. Лупіў тады Антося бацька. Біў чым папала.

Ведаючы, што бацька дома, дзеці швэндаліся доўга па вуліцах, не спяшаліся дахаты. Антось зайздросціў сваім сябрам, у якіх бацькі былі спакойныя і сардэчна адносіліся да дзяцей.

Антосю стукнула 16 год. Быў якраз яго дзень нараджэння. Сядзеў у хаце і рабіў урокі. Раптам у хату ўваліўся п'янюсенькі бацька і адразу пачаў прад'яўляць нейкія прэтэнзіі да маці. Не паспела яна адказаць яму, як ён пачаў яе біць кулакамі. Антось выбег з пакою і засланіў маці сваім целам. Тады раз'юшаны бацька зняў дзягу і пачаў сцёбаць сына дзе папала. Пацягнуў некалькі разоў па твары, і крыкнуў раптоўна Антось ды абвіс на стале. Пацямнела ў вачах, зашумела ў галаве. Вока заплыло крывёю. Гэта быў пачатак Антосевай трагедыі. На правае вока пачаў ён недабачваць.

Мінула два гады. Як не лячылі хлопца, што не рабілі, Антось слеп. На чарговым візіце ў доктара яму было сказана: калі не ампутуюць правае вока, то аслепне цалкам.

Антось згадзіўся на аперацыю. На дзень перад гэтым не мог знайсці сабе месца, нічога не еў. На развітанне вырашыў пайсці да фатографа, каб мець здымак з абодвума вачыма. На просьбу фатографа, каб усміхнуўся, нічога не выйшла. Здымак быў каляровы і выйшаў добра, хаця без усмешкі Антося.

На аперацыю маці не змагла яго правесці, бо была на рабоце. Апошні раз выняў Антось люстэрка і глянуў на сябе. У бальніцу ішоў быццам не сваімі нагамі.

Да шклянога вока доўга не мог прызвычаіцца, але бацька стаў да яго больш ласкавы. Было гэта аднак толькі тады, калі быў цвярозы.

Аднойчы Антось вяртаўся дамоў. У калідоры пачуў крык маці і сястры. Хутка адчыніў дзверы і ўбачыў, як бацька цягне Анату за валасы, а ў маці цячэ кроў з носа. Без памяці кінуўся да бацькі: „Гэта за вока, гэта за крыўду маці, гэта за Анату...“ Звязаў бацьку і кінуў яго на тапчан. Апоўначы пакінуў хату і паехаў да дзядзькі. На вакзал праводзіла яго маці.

**М. Сваяк**



## ГОРАД ПРЫГАЖЭЕ

У Сямяцічах адбываюцца вялікія карысныя змены. Жыхары гэтага горада дружна рамантуюць вуліцы і тратуары, будуюць спартыўныя стадыёны, водаправодныя і водасцёкавыя сеткі, водасховішчы, добраўпарадкуюць парк. У мінулым годзе на вуліцах пасаджана 15 тысяч ружаў. Яны выканалі грамадскай працы на 16 мільёнаў злотых.

Новыя ўстановы, чысціня, лад і парадак змянілі аблічча гэтага горада.

За гаспадарчыя і грамадскія дасягненні атрымалі яны 3 мільёны злотых узнагароды. Другую ўзнагароду — 1 мільён злотых прызнаў ім Цэнтральны саюз кааператыва спажыўцаў „Сполэм“ за дасягненні і намаганні ў галіне аднаўлення і перабудовы гандлёвай сеткі. Адрамантавана 17 крамаў. У гэтым годзе былі адкрыты: вясковы таварны дом з 9 рознымі аддзяленнямі (гэты гандлёвы аб'ект каштаваў 11 мільёнаў злотых), рэстаран „Оленька“ і бар „Экспрэс“. Цяпер Сямяцічы з'яўляюцца гандлёвым цэнтрам таксама для жыхароў навакольных вёсак. **(яц)**

садах у спажывецкай прамысловасці і гандлі Дольнага Шлёнска, Т. Кірылаў знаходзіць час на літаратурны запіс перажытага ім. Паўстаюць артыкулы, апавяданні і навелы, што паяўляюцца ў розных часопісах Шлёнска, у варшаўскім друку. Яны здабываюць узнагароды на розных конкурсах. Кніга ўспамінаў з перажытага ў канцлагеры „Дружба — значыць пшыязнь“ Т. Кірылава заняла трэцяе месца ў агульнапольскім конкурсе „Польска-савецкае працоўнае братэрства“. Кніга выйдзе з друку ў канцы бягучага года. Цяпер жа Т. Кірылаў працуе над новай кнігай „На Дзвіне, на Одры“, у якой на канве жыццёвых перыпетый уласных і яго блізкіх з Глыбоччыны, Нямеччыны, Францыі і Шлёнска хоча адлюстраваць працэсы складвання і ўмацавання інтэрнацыянальнай еднасці працоўных, асабліва польска-беларускай дружбы.

— Люблю я свае родныя куточкі на Глыбоччыне, — заўважае Т. Кірылаў. — І не толькі я, але і ўся мая сям'я: мая жонка, хоць яна родам з Куяваў, дачка і сын, што ўжо нарадзіліся, выхаваліся і працуюць на Шлёнску. Мы ўсе чацвёра часта ездзім да родзічаў на Глыбоччыну, гасцюем там цэлымі тыднямі. Таксама, як тамашніх людзей, радуе і нас разгорнутае будаўніцтва ў вёсцы і горадзе, рост заможнасці і культурнага ўзроўню жыцця на Беларусі. Мая матуля яшчэ і сёння памятае мноства беларускіх народных песень. Прызнаюся, што я і сам часам люблю сабе напяваць вясельную: „Каціўся чабар пад белу бярозку...“ Мілы гэта майму сэрцу напеў...

**Мікалай Гайдук**

## ФАЛЬКЛОР

*СЯМЕЙНАЯ*




*А ў нідзелю та й раненько,*
*а ў нідзелю та й раненько*
*прыснiўса мне сон дзіўненькі.*
*Прыснiўса мне сон дзіўненькі,*
*што й помер мой брат родненькі,*
*што й помер мой брат родненькі.*
*Трэба й коня запрагаці,*
*трэба й коня запрагаці*
*та й браточка адведаці.*
*Еду мілю, еду другу,*
*еду мілю, еду другу,*
*шчэ й на трэцю зварочаю,*
*шчэ й на трэцю зварочаю —*
*до браточка заезджаю,*
*до браточка заезджаю.*

*— Ховай, жоно, хлеб із стола,*
*ховай, жоно, хлеб із стола,*
*бо ўжэ едзе сёстра моя.*
*— Постой, брацец, не лекайсе,*
*постой, брацец, не лекайсе,*
*то і з хлебом ні хавайсе.*
*то і з хлебом ні хавайсе.*
*Ест у мэне хлеб у возі,*
*ест у мэне хлеб у возі —*
*будзе абед у дарозі.*
*Буду хлеб песочком посыпаці,*
*буду хлеб песочком посыпаці,*
*слёзонькамі запіваці,*
*слёзонькамі запіваці.*

Ад Агаты Палатэбнавай, 1906 года нараджэння, і Альжбеты Сац, 1918 года нараджэння, мястэчка Белавежа, запісаў вясной 1978 г. М. Гайдук; мелодыю расшыфравала Л. Панько.




## НЕ ЖУРЫСЯ, ДЗЯДЗЬКА КВАС!

Прачытаў я ў „Адгалосках“ натацыю Уладзіслава Дваракоўскага і сам сабе не верыў: няўжо так чалавек не злюбіў дзядзьку Кваса? Ну што ж, як кажуць, хто любіць бацюшку, а хто матушку. Аднак трэба ведаць: людзі любяць і цэняць Кваса. Ён увесь з нашых палёў, з нашай працы, з таго, з чым мы кожны дзень сустракаемся. Ад яго кісла абібокам, бракаробам і п'яніцам. А палоска? Нам, вясковым чытачам, ой добрая! У ёй выказаў Квас не толькі свае думкі, але і ўсіх нас, вяскоўцаў, якія не маюць адвагі напісаць у „Ніву“ і не ўмеюць. Я не ўмею даказваць, як даказаў дзядзька Квас у сваёй палосцы (ці як адгукнуўся У. Дваракоўскі), адно толькі чую і бачу, як людзі адносяцца да дзядзькі Кваса і як да навамодных вершаў. І яшчэ вядома, што гэтыя (у новым стылі) вершы, як піша Дваракоўскі, чытаюць сотні чытачоў. А дзядзьку Кваса, Ф. Хлябіча і іншых — сотні тысяч. І таму, калі б адгукнуліся тыя, што за дзядзькаквасавай палоскай цягнуцца, то не толькі рэдакцыя не здолела б іх прачытаць і надрукаваць, але, магчыма, не знайшла б і месца (памяшкання) каб змясціць іх.

— Дзядзька Квас, — кажа Дваракоўскі, — патаптаў запэцканымі ботамі чысціню вершаў маладых пушкінцаў. Па-першае, далёка ім да Пушкіна. Па-другое, дзядзька Квас — гаспадар, ён жа 80 гадоў топча зямлю. Многа ўсялякіх ботаў стаптаў. І на старасць топча, здабывае хлеб, малако, мяса. Сабе і вам. Усялякага жыцця спрабаваў. Што ж, мог і не дагледзець: улез з ботамі на вас, маладых, чысценькіх. Не шкодзіць. Выбачайце.

*Не журыся, дзядзька Квас,*
*Пішы ў „Ніву“ больш для нас!*

**А. Леўшук,**
Ціванюкі

## ПАДРУЖЫЛІ МЫ

Дарагая рэдакцыя, я з увагай прачытаў артыкул рэд. В. Рудчыка пад загалоўкам „Піянеры ў гарцэраў“ у 32 нумары вашай газеты. З радаснымі і разам сумнымі ўспамінамі глядзеў я на змешчаныя здымкі піянераў. Я, як член інструктарскіх кадраў гарцэрскага лагера ў 26 пачатковай школе, перажыў разам з піянерамі два цудоўныя тыдні.

Артыкул рэд. Рудчыка не поўнасцю перадае чароўнасць лагера. Піянеры не толькі расказвалі пра дасягненні іх роднай Беларусі. То ж яны проста разам з намі пражылі тыя два тыдні! Вось мы ля гарцэрскага камінка, які назвалі „Пазнаёмімся“. Царыць польская і руская песня. Лёгкія гарцэрскія песні пераплятаюцца з рытмічнай і маршавай песняй піянераў. „Салдацкі лёс“ спяваем на дзвюх мовах. Песні льюцца, і ўрэшце вядомая на кожнай геаграфічнай шырыні „Пусть всегда будет солнце“. Гэтая песня пераламвае ўсе лёды. Моўныя клопаты прападаюць. Наш камінок заканчваем маладзёжнай дыскатэкай.

Потым былі супольныя экскурсіі ў горад. Захапляліся мы палацам Браніцкіх, паркам, старымі дамамі горада. Нашы госці былі здзіўлены вялікай колькасцю руж на скверах і вуліцах горада. Разам былі ў кіно. Піянерам асабліва спадабаўся фільм пра Болька і Лёлька.

Я, як беластачанін, не прамінуў нагоды, каб не пахваліцца нашай прамысловасцю. Паказаў піянерам і гарцэрам самыя галоўныя прамысловыя аб'екты Беластока. З беластоцкіх узгоркаў моладзь бачыла прыгожую панараму нашага горада. Там жа на ўзгорку мы распалілі касцёр. І зноў нашы гарцэрска-піянерскія песні плылі рэхам пад горадам. Друг Алек са сваёй неадлучнай гітарай надаваў тон і рытм. А „Белая бяроза“, якую спявала Лена Філіпава, хутка стала любімай песняй лагера.

Доўга можна было б расказваць пра лагернае жыццё, пра фестывалі песні і выступленні Сашы Дасты. Піянеры паказалі нам рускую версію „Капцюшка“. Саша Даста, дасканала пераадзеты, іграў, як стары акцёр з найлепшых сцэн. Успомню яшчэ аб прыгожай пантаміме ў выкананні Весты Трыгуб. Калі пагода была добрая, мы супольна ігралі ў два агні і ў валейбол.

(Працяг на стар. 7)



 

